# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“

Цана 30 н. фэн.

№ 37 (40) | 21 ЛІСТАПАДА 1948 Г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 2

## ЗН ПАСЯРЭДНІЧАЮЦЬ

### СПАЧАТКУ СПЫНЕНЬНЕ БЛЯКАДЫ,А ТАДЫ ПЕРАМОВЫ

Перад тым, як пытаньне Бэрлінскага канфлікту — пасьля правалу яго ў Радзе Бясьпечнасьці з прычыны савецкага вэта — мае быць пастаўленае на парадку дня пленуму ЗН, вярхоўныя органы Задзіночаных Нацыяў зрабілі яшчэ адну спробу пасярэдніцтва між зацікаўленымі бакамі з мэтаю разьвязаньня яго непасрэдна чатырма гаспадарствамі. Гэтак генэральны сакратар ЗН Трыгвэ Лі й прэзыдэнт цяперашняй сэсіі ЗН аўстралійскі міністар замежных справаў Эват зьвярнуліся 14 лістапада з супольным заклікам да шэфаў урадаў чатырох гаспадарстваў Трумана, Этлі, Кэя й Сталіна, у якім прызываюць гэтыя чатыры гаспадарствы безадкладна распачаць перамовы ў справе Бэрлінскага пытаньня й прыняць усе меры з мэтаю ягонага разьвязаньня.

У гэтым заклiку між іншым сказана: «Мы хацелі-б зьвярнуць увагу ўдзельнікаў Маскоўскай канфэрэнцыі на тое, каб былі распачаты непасрэдныя перамовы й прынятыя ўсе іншыя патрэбныя меры з мэтаю палагоджаньня Бэрлінскага пытаньня, што ў сваю чаргу дасьць магчымасьць узнавіць перамовы ў справе падпісаньня мірных дагавораў зь Нямеччынай, Аўстрыяй і Японіяй... Кажны дзень, што адцягвае разьвязаньне Бэрлінскага пытаньня, абазначае далейшае павялічэньне загрожаньня міру й бясьпечнасьці ўсіх нацыяў».

Гэты зварот урадавыя дзейнікі ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі прынялі стрымана й сцэптычна, а гэта таму, што — на думку гэтых гаспадарстваў — ён мусіўбы быць скіраваны да аднаго толькі Савецкага Саюзу, які нясе выключную адказнасьць за Бэрлінскі крызыс. Магчымасьць разьвязаньня Бэрлінскага пытаньня ляжыць выключна ў руках Саветаў, якія, калі хочуць знайсьці выхад з палажэньня, павінны зрабіць толькі адно: спыніць блякаду Бэрліна.

Амэрыканскія й брытанскія колы выказваюць занепакаеньне, што гэтая «мірная афэнзыва» Трыгвэ Лі й Эвата зьяўляецца якраз на руку для савецкай прапаганды. Такая небясьпека павялічваецца яшчэ ў сувязі з паўторнай заявай заходніх гаспадарстваў, што яны ня будуць весьці ніякіх перамоваў пад націскам, г. зн. перад спыненьнем блякады.

Урады ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі 17 лістапада адказалі на заклік Трыгвэ Лі й Эвата. У сваім адказе яны заявілі, што Бэрлінская справа знаходзіцца на парадку дня Рады Бясьпечнасьці і толькі Радаю Бясьпечнасьці можа быць разьвязанае гэтае пытаньне. Беспасярэднім перамовам у гэтай справе чатырох гаспадарстваў стаіць на перашкодзе блякада Бэрліна.

Ня гледзячы на гэта, Трыгвэ Лі й Эват выдалі супольны камунікат, у якім яшчэ раз заклікаюць усе чатыры гаспадарствы распачаць непасрэдныя перамовы аб Бэрлінскім пытаньні паза Задзіночанымі Нацыямі.

## ЗА МАСКОЎСКІЯ ГРОШЫ

### РЭВЭЛЯЦЫЙНЫЯ СЬЦЬВЕРДЖАНЬНІ МІНІСТРА МОША

Францускі міністар нутраных справаў Мош паведаміў 16 лістапада нацыянальнае сабраньне, што камуністыя ў Францыі й Бэльгіі фінансуюцца Савецкім Саюзам. Гэтая фінансавая помач выплачваецца ім за пасярэдніцтвам аднаго банку ў Францыі, які праўна зьяўляецца францускай собскасьцю, але ў запраўднасьці знаходзіцца ў распараджэньні дзьвюх кіруючых савецкіх банкавых інстытуцыяў. Ходзіць тут аб адзін гандлёвы банк у паўночнай Эўропе, спасярод 100.000 акцыяў якога 99,700 належаць савецкаму дзяржаўнаму банку й савецкаму банку замежнага гандлю. Золата вартасьцю некалькіх мільярдаў франкаў, якое зьяўляецца собскасьцю камінформу, было нядаўна прывезенае ў Францыю. Сьледзтва ўстанавіла, што ў ліпені швайцарская паліцыя арыштавала аднаго румынскага ўрадаўца, які, як ведама, меў за заданьне займацца разьдзелам камінформаўскіх грошаў між Францыяй і Бэльгіяй. Міністар Мош прыпомніў інструкцыі памерлага генэральнага сакратара камінформу, Жданава паводля якіх камун. партыям заходняй Эўропы загадавалася, ня гледзячы на вынікі Маскоўскай канфэрэнцыі, што адбывалася летам 1948 г. ў справе Бэрлінскае блякады, прадаўжаць усімі магчымымі спосабамі змаганьне супраць пляну Маршаля. Францускае міністэрства нутраных справаў мае дакладныя дадзеныя, паводля якіх камуністычныя дзеячы Францыі на пачатку верасьня паведамлялі свайму кіраўніцтву, што ўжо ўсё прыгатавана для правядзеньня ў жыцьцё інструкцыяў камінформу.

У далейшым сьцьвердзіў міністар, што палажэньне ў Францыі паправілася. Вайсковыя аддзелы й надалей астануцца ў занятых імі акругах, што былі абнятыя штрайкам, да таго часу, пакуль не запануе поўны парадак. У выніку штрайкаў і зьвязаных зь імі беспарадкаў было да 12 лістапада раненых 479 паліцыянтаў. У гэтым-жа часе было арыштавана 1041 асобаў, у гэтым ліку 117 немцаў, італьянцаў і палякаў.

Мош паведаміў, што прыгатавана шмат праектаў законаў,якія даюць ураду вялікія паўнамоцтвы для змаганьня з сабатажам. Разьвязаньне аднак камуністычнай партыі было-б памылкай, бо гэта прывяло-б да яшчэ больш небясьпечнага падпольнага руху. Мэтай ураду ня ёсьць змаганьне з камуністычнай дактрынай ані з работніцкай клясай, але з актамі сабатажу.

### ДЭ ГОЛЬ ЗДАБЫЎ 45%

Пасьля атрыманьня вынікаў выбараў у Раду Рэспублікі (сэнат) з афрыканскіх францускіх калёніяў ўстаноўлена, што спасярод 300 выбраных усіх дэпутатаў 135 зьяўляюцца прыхільнікамі Дэ Голя, 125 прыхільнікамі ўрадавых партыяў, а камуністыя здабылі толькі 20 дэпутатаў іншых партыяў стаяць паміж двума вялікімі блёкамі й яшчэ не пастанавілі, да якога зь іх прыстаць.

### ПАЎНОЧНА-АТЛЯНТЫЧНЫ АБАРОННЫ ПАКТ

Сталая камісія Заходняй вуніі, якая цяпер адбывае сваю канфэрэнцыю ў Лёндане, мае ў найбліжэйшых днях — на думку дыпляматычных колаў у Вашынгтоне — прыгатаваць праект Паўночна-Атлянтычнага абароннага пакту. Як ужо паведамлена, нарады ў справе гэтага пакту маюць адбыцца ў Вашынгтоне ў палавіне студзеня наступнага году. Амэрыканскія газэты падалі ўжо падробнасьці францускага праекту гэтага пакту. Ён павінен быць 50-летнім саюзам з забавязаньнем узаемнае ваеннае помачы паміж ЗША, Канадай, Вялікабрытаніяй, Францыяй, Бэльгіяй, Галяндыяй і Люксэмбургам.

Згодна пагляду амэрыканскіх колаў у Парыжы, успомнены францускі праект ідзе шмат далей, чымсьці можа ў гэтай справе пастанавіць амэрыканскі кангрэс, бо ЗША без папярэдняй зьмены сваей канстытуцыі ня могуць даваць забавязаньняў, што яны аўтаматычна могуць уступіць у вайну.

Паводля паведамленьня Лёнданскай газэты «Сандэй Хронікль», фэльдмаршал Монтгомэры прыгатаваў ужо плян абароны заходняй Эўропы. Згодна гэтага пляну, Вялікабрытанія мае даць у распараджэньне Заходняй вуніі тры дывізіі сваей рэгулярнай арміі, у тым ліку адну дывізію парашуцістых, апрача гэтага дзьве заморскія дывізіі, а таксама вялікую колькасьць зьнішчальнікаў і бамбавозаў. Францыя мае даць 15 дывізіяў, у тым ліку тры панцырныя й адну парашуцістых, а таксама аддзел зьнішчальнікаў і бамбовых самалётаў. Гаспадарствы Бэнэлюксу выстаўляюць ад трох да чатырох дывізіяў.

Згодна паведамленьняў з Парыжа, асноваю ўзбраеньня арміі Заходняй вуніі маюць быць амэрыканскія даставы. Галоўная Кватэра ваеннай групы Заходняй вуніі будзе знаходзіцца ў Фонтэнэблё ў Францыі, а галоўныя кватэры назэмных, марскіх і паветраных сілаў — у Люксэмбургу.

Апошнімі днямі галоўнакамандуючы Заходняй вуніі маршал Монтгомэры й амэрыканскі міністар абароны Форэстэль адбылі падарожжа па заходняй Эўропе й правялі гутаркі з многімі аўтарытэтнымі дзейнікамі на абаронна-ваенныя тэмы. Заходняэўрапэйская прэса, як і некаторыя афіцыйныя асобы сьцьвярджаюць, што галоўнай лініяй абароны заходняй Эўропы на выпадак агрэсыі прадбачыцца лінія Рэйну, на якой маюць быць у хуткім часе пабудаваныя ўмацаваньні. Лінія Пірынэяў прадбачыцца, як апошняя магчымасьць.




«Бацька працоўных»

## АКТУАЛЬНЫЯ ЗАДАНЬНІ

У перадавіцы папярэдняга нумару нашае газэты мы зьвярнулі ўвагу на тое, што толькі такое грамадзянства можа пасьпяхова выконваць узложаныя на яго нацыянальныя абавязкі, якое зьяўляецца моцным зь ідэалягічнага гледзішча й глыбака прасякнутым нацыянальна-вызвольнай ідэяй свайго народу. У гэтым-жа артыкуле хочым дапоўніць нашыя папярэднія развažаньні й сьцвердзіць, што хаця ідэйная якасьць грамадзянства зьяўляецца найвялікшым і найбольш вызначальным паказьнікам ягонае нацыянальнае сьпеласьці, аднак гэтага яшчэ недастаткова, каб уважаць яго за поўнавартаснае грамадзянства. Бо могуць быць людзі нацыянальна сьведамыя, глыбака ідэйныя, гатовыя за справу свайго народу пайсьці на ўсё, але калі яны ня будуць прадстаўляць сабою адпаведна зарганізаванага арганізму, які павінен адначасна выконваць рознародныя функцыі, патрэбныя для нармальнага дзеяньня й разьвіцьця агульнанацыянальнага працэсу, дык, зразумела, такія людзі, ня гледзячы навет на найлепшыя хаценьні, нічога паважнага зрабіць ня могуць.

Дык ясна, што побач зь ідэйнымі вартасьцямі грамадзянства адыгрывае ня меншую ролю й ступень ягонага арганізацыйнага ўзроўню. Абодвы гэтыя мамэнты ўзаемна павінны сябе дапаўняць. Бо калі кажны з нашых грамадзкіх ці палітычных працаўнікоў будзе рабіць толькі тое, што яму ў дадзены мамэнт падабаецца, без увязаньня з цэлым грамадзкім працэсам, то атрымаецца такое непажаданае зьявішча, што некаторыя важныя галіны працы будуць занядбаныя або й зусім выпушчаныя з пад увагі, а іншыя, часамі менш важныя дзялянкі працы будзе адначасна выконваць вялікая колькасьць людзей, тады, калі зь ей маглі-б справіцца адзінкі. Адпаведная расстаноўка сілаў для розных галінаў працы зьяўляецца тады першым і асноўным вымаганьнем кажнага зарганізаванага грамадзянства.

Але каб усякая грамадзкая ці палітычная праца была найбольш мэтазгоднай і прыносіла найбольшую карысьць, павінна яна разьвівацца згодна з вымогамі часу й адказваць найбольш пякучым і актуальным патрэбам беларускага нацыянальнага жыцьця. Такім парадкам паміж living рознымі грамадзкімі заданьнямі нармальна існуе строгая градацыя; бываюць заданьні неабходныя, важнейшыя й менш важныя. Вось-жа адпаведнае рэгуляваньне ўсяе дзейнасьці ў залежнасьці ад розных нацыянальных патрэбаў і іхнае важнасьці магчымае толькі пры добрай і спраўнай зарганізаванасьці грамадзянства.

Без адпаведнай і належна функцыянуючай арганізацыйнай структуры бываюць звычайна дзейнымі толькі адзінкі ініцыятыўныя й творчыя. Затое цэлая маса людзей, якая зьяўляецца няздольнай да праяўленьня собскай ініцыятывы, астаецца пасыўнай. Але гэтыя людзі могуць быць вельмі карыснымі, калі ім гэтую ініцыятыву даць, іншымі славамі, калі даць ім канкрэтнае заданьне працы й ейны кірунак. Для гэтага ў зарганізаваным грамадзянстве бываюць ахопленыя ўсе ягоныя адзінкі з мэтаю прыцягненьня кажнага да такой працы, да якой ён пачуваецца здольным. У грамадзянстве незарганізаваным людзі гэтае катэгорыі бываюць поўнасьцю пасыўнымі й знаходзяцца паза межамі грамадзкага жыцьця й працы зь вялікаю шкодаю для справы.

Усе гэтыя мамэнты ясна нас пераконваюць, што грамадзкая зарганізаванасьць зьяўляецца вельмі важнай і неабходнай перадумовай нармальнага функцыянаваньня грамадзкага арганізму, ягонага поступу й ягонай поўнавартаснасьці. Таму кажнае дасьпелае грамадзянства, зложанае зь вялізарнае колькасьці людзкіх адзінак, у супольным жыцьці прадстаўляе сабою адзіны моцны арганізм, усе складовыя часткі якога суладна працуюць кажная ў згары запляннаваным кірунку.

Абсэрвацыя беларускага грамадзкага жыцьця на эміграцыі прыводзіць нас да не зусім радасных высноваў. Праўда, на недахоп розных арганізацыяў наракаць ня прыходзіцца. Мы маем дастатковую колькасьць арганізацыяў палітычных, агульна-грамадзкіх, прафэсыянальна-грамадзкіх, культурных і іншых. Але гэтая вялікая колькасьць розных нашых арганізацыяў абсалютна не гаворыць аб належнай зарганізаванасьці нашага эміграцыйнага грамадзянства. З цывільнаю адвагаю трэба прызнацца, што ў гэтым кірунку мы значна адсталі ад вымогаў часу й нашых нацыянальных патрэбаў, прызнацца не па тое, каб, сьцвердзіўшы нашыя адмоўныя бакі, заглыбіцца ў пэсымізьме й бязьверы або выстаўляць сабе суровы акт абвінавачаньня, але толькі па тое, каб супольнымі сіламі направіць усе недахопы нашага нацыянальнага жыцьця.

Лішнім тут будзе пералічаць, якія іменна гэта недахопы, ды ілюстраваць іх канкрэтнымі прыкладамі. Кажны беларус, які хоць трохі цікавіцца нашым эміграцыйным жыцьцём, дастаткова й сам гэта бачыць. Усе мы часта чуем з розных бакоў правільныя й справядлівыя заўвагі, што ў нашым арганізацыйным жыцьці на эміграцыі ня ўсё ў парадку й што многае трэба зрэарганізаваць, зрэфармаваць, направіць. Мы ўсе ў пераважнай меры або й поўнасьцю звычайна згаджаемся з гэтымі крытычнымі заўвагамі, але найчасьцей тады абмяжоўваемся на вышукваньні прычынаў адмоўных бакоў нашага жыцьця, а вельмі мала стараем[ся] зьмяніць іх на бакі дадатнія. Таму якраз тут мы й [хо]чам у прынцыпе паставіць сяньня перад усімі нам[і гэ]тае актуальнае пытаньне з тым, каб супольным[і] сілкамі наладзіць нашую эміграцыйную дзейна[сьць]

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ЦЕРПІЦЬ І ЗМАГАЕЦЦА

## ГУТАРКА З КАМАНДЗІРАМ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАНАЎ

Гэтымі днямі з нашае Бацькаўшчыны ўдалося прабрацца ў ангельскую зону Нямеччыны аднаму з удзельнікаў змаганьня за вольную й незалежную Беларусь. У гутарцы із супрацоўнікам «Бацькаўшчыны» ён падаў дакладныя весткі аб жыцьці й палажэньні беларускага народу й аб нацыянальным партызанскім руху на Беларусі. Зь ведамых прычынаў ня можам падаць прозьвішча камандзіра беларускага партызанскага аддзелу.

На пытаньне аб палажэньні беларускага народу пад паўторнай бальшавіцкай акупацыяй, камандзір адказаў:

— Вялізарная колькасьць насельніцтва жыве яшчэ ў зямлянках, бо пабудова хатаў ідзе вельмі марудна. Лес трэба красьці або будаваць із скромных прыдзелаў на апал. Дошкі й сталярку трэба выраблягць собскімі рукамі, бо ўсе тартакі працуюць пад моцнай кантроляй, а насельніцтва нічога не дастае зь іхнае прадукцыі. Яшчэ горш із жалезам. Замест цьвякоў карыстаюцца рэзаным дротам і то выструганым із калючага. Вокны ўкладаюць із абломкаў. Крыху сяго-таго давала на пачатку УНРРА. Вопратка таксама парвалася, а аб саматканах няма й гутаркі. Лён прадуць украдкам на ніткі, бо ўсё падлягае здаваньню. Прыдзелу сітцу й корту на вёскі такія малыя, што не хапае навет для задавальненьня патрэбаў кіраўнікоў сельпо й калгасаў. У гарадох крыху лепш, але й там нельга зраўняць цяперашняга палажэньня з палажэньнем у 1940 г. Калгаснае будаўніцтва існуе толькі ў газэтах. Калі дзе й запраўды нешта пабудуюць, дык трывае гэта толькі на час адкрыцьця, потым звычайна будыніна разлазіцца. З гаспадаркаю ў калгасах ня лепш. Жывёлы было вельмі мала. машынаў яшчэ менш. Крыху трактароў дала УНРРА, але хутка іх з калгасаў забралі быццам дзеля недахопу заменных частак. Толькі ў гэтым годзе пачалі абрабляць ізноў адлогі. Лес сякуць і далей. Усё, што толькі надаецца ў лесе на тавар, выразаюць, а астальное раскрадае насельніцтва.

Зь ежаю вельмі дрэнна. Перад скасаваньнем харчовых картак, можна было купіць хоць трохі хлеба ды сушанай рыбы, а цяпер і гэтага за чаргой амаль дастаць немагчыма. Дастаецца затое сёе-тое «па блату». Таму сялянства галадуе. Больш менш ад каляд пачынаецца па мястэчках і гарадох шуканьне ежы, бо да каляд прынамсі хапае прыхаванай бульбы. Пастаўкі далей такія самыя, аднак часьцей, чымсьці раней, бываюць «дабравольныя» здаваньні «лішак». Сярод сялянства вельмі мала аднаасобнікаў, бо амаль усіх загналі ў калгасы. Карэннага насельніцтва што раз менш, затое прыбываюць усё новыя й новыя людзі. Некаторыя вёскі былі пасьля вайны зусім пустыя, дык туды прывезьлі татараў і манголаў. Спасярод вярнуўшыхся зь Нямеччыны некаторыя яшчэ спатыкаюцца, але вельмі рэдка. Усе мужчыны былі змабілізаваныя ў армію. Адразу пасьля вайны зь Японіяй многія мужчыны вярнуліся дамоў, а цяпер што раз менш відаць і іх. Шмат забралі на работы і пагналі на ўсход.

На пытаньне, што ведаюць людзі аб эміграцыі, камандзір адказаў: Весткі даходзяць скупыя, аднак ведама аб існаваньні камітэтаў. Народ надзеіцца на іх і чакае ад іх ратунку ў рашучую хвіліну. Усе вераць у хуткую вайну і пэўныя, што савецкая ўлада будзе зьнішчаная. Перакананыя, што Беларусь будзе незалежнай дзяржавай. У народзе ходзяць чуткі і гутаркі, быццам у Нямеччыне ўжо прыгатаванае беларускае войска, якое знаходзіцца ў баёвай гатоўнасьці. Існуе зайздрасьць у насельніцтва да тых, хто апынуўся заграніцай, і кажны хацеў-бы быць сяньня на эміграцыі. Што тычыцца ўрадаваньня былай Беларускай Цэнтральнай Рады й Астроўскага, дык насельніцтва ня можа яму дараваць за ягоную дзейнасьць, асабліва за стварэньне г. зв. абаронных вёсак. Усе спасярод насельніцтва, а навет далёкія сваякі ўдзельнікаў абаронных вёсак моцна перасьледуюцца. Усе мужчыны дасталі ад 4 да 10 год лягераў, а жанчыны й дзеці высланыя ў Азію. Ураваталіся толькі тыя, што ўцяклі ў лес, затое тым цяжэй пацярпелі іхныя сем'і й сваякі.

На запытаньне аб дзейнасьці беларускіх партызанаў, было выясьнена: Пасьля адыходу немцаў, мы тварылі вялікія аддзелы. Праводзілі ўзрывы цягнікоў, кіравалі цэлымі паветамі-раёнамі. Так можа ведама вам аб разьбіцьці ваеннага транспарту каля Слоніма? Спалена тады 20 грузавікоў і выбіта ўсю абсаду цягніка. У Крывічох каля Маладэчна быў здабыты цэлы цягнік амуніцыі. Нажаль, ня было магчымасьці ўсяго забраць.

Але ўжо вясной 1946 г. палажэньне моцна пагоршылася. Найбольш бяды зь ежаю, бо й самі жыхары галадуюць. Таксама не хапае амуніцыі. Запасы, што нарабілі ў 1944 — 45 г., ужо разыйшліся. Новага здабыць няма дзе. Таму ў 1946 г. было пастаноўлена расфармаваць аддзелы на малыя мясцовыя групы ад трох да дзесяцёх чалавек. Такая група ходзіць із зброяю і хаваецца ад міліцыі. Акцыі цяпер праводзяцца толькі ў часы кампаніяў пры малой колькасьці «гуляючых» саветаў. Да акцыі зьбіраецца некалькі аддзелаў, далучаюцца да іх «ударнікі» (г. зн. тыя, што жывуць дома, але спрыяюць партызанам) і выконваюць патрэбнае заданьне. Наагул-жа беларускія партызаны перайшлі на доўгае трываньне. У 1947 г. было пастаноўлена ашчаджаць людзей і народнае багацьце, а ўстрымацца ад непатрэбнага дражненьня савецкіх уладаў. Партызаншчынай ня вызваліш народу ані краіны, а трэба чакаць вайны і тады дзеіць... Робяцца толькі дробныя мясцовыя напады то тут, то там, каб прыпомніць бальшавіком, што трэба езьдзіць асьцярожна й ў большай кучы. Гэта так-жа добра й для насельніцтва, бо тады ня так націскаюць з пастаўкамі. Як украдзе хто ў калгасе, дык звальваюць усё на партызанаў і сьпісваюць «на ўбытак».

Што да назоваў, дык аддзелы карыстаюцца назовам камандзіра. Калі згіне камандзір, дык ягоны наступнік прыймае й ягоную мянушку. Шмат хацела прабірацца на Захад. Аднак у папярэднія гады гэтага не зрабілі, а цяпер на месцы можна лягчэй прахавацца, чымсьці йсьці сюды.

На заканчэньне камандзір заявіў: У нас там моцна чуецца зьбліжэньне вайны. Абставіны зусім такія, як перад 22 чэрвеням 1941 г. Таксама масава пралятаюць самалёты ды на цягнікох едзе многа ўсякага зялезіва на Захад. Войска ўсюды многа. Адных сунуць сюды, другіх туды. Рух зусім падобны да тых часоў. Зразумела, мы хацелі-бы, каб хутчэй пачаўся запраўдны «рух», але, ведама, гэта не ад нас залежыць.

**Падаў К-іч.**

### БЕЛАРУСАЎ ПЕРАСЯЛЯЮЦЬ У НЯМЕЧЧЫНУ

Часапіс «Тагэсшпігель» падае паведамленьне латвійскай газэты «Ціня» пра спэцыяльныя пляны Саветаў што да ўсходняй Нямеччыны. Згодна гэтае газэты, савецкі ўрад мае намер адбудоўваць усходнюю Нямеччыну пры помачы народаў СССР, а ў прыватнасьці прыбалтаў, **беларусаў** і ўкраінцаў, якія будуць пераселеныя ў Нямеччыну. Яны маюць дапамагаць адбудоўваць нямецкую сельскую гаспадарку й прамысловасьць быццам таму, што работніцкія рэзэрвы Нямеччыны слабыя.

### МАСКВА ХОЧА ЯШЧЭ ВЫКАРЫСТАЦЬ ГІТЛЕРА

Швайцарская газэта «Бохэн-Цайтунг», што выходзіць у Цюрыху, нядаўна надрукавала цікавы артыкул пражываючага ў Амэрыцы д-ра Страсэра, які займаецца пытаньнем, ці жыве яшчэ Гітлер, ці не. Ён між іншым піша: «Гітлер памёр, бяссумліву памёр! У выдадзенай ангельскай тайнай службай кнізе «Апошнія дні Гітлера» так ясна й з такімі дакладнымі довадамі апісаная сьмерць Гітлера, што трэба толькі дзівіцца, як могуць паўставаць яшчэ сумляваньні ў самагубстве нямецкага дыктатара пасьля паяўленьня гэтае кнігі». Пасьля дасьледваньня прычынаў, што падтрымліваюць у некаторых веру у тое, што Гітлер яшчэ жыве, прыходзіць Страсэр да цікавых вывадаў: Ён сьцьвярджае, што сумляваньні ў сьмерці Гітлера распаўсюджваюцца толькі савецкімі крыніцамі. Пры гэтым ён цытуе справаздачу зь Лёнданскага часапісу «Кавалькадэ» з 8 травеня 1948 г. аб тым, што сам шэф НКВД Бэрыя праводзіў спэцыяльнае даходжаньне аб сьмерці Гітлера і на аснове дапрошаных 10.000 сьветкаў і іншых матарыялаў сьмерць гэтую сьцьвердзіў. Аднак даходжаньне Бэрыі, што займае 164 балоны, нідзе ня было апублікованае. Наадварот, Сталін і Молатаў у многіх сваіх заявах перад загранічнымі людзьмі выказвалі сваё сумляваньне ў сьмерці Гітлера. Гэтае захоўваньне Саветаў зьўляецца адзіным «аргумэнтам», што магчыма Гітлер яшчэ жыве.

Дзеля якой-жа мэты пашыраюць Саветы фальшывыя чуткі аб тым, што Гітлер яшчэ можа знаходзіцца сярод жывых? На гэтае пытаньне дае Страсэр наступны адказ: «У выпадку савецка-амэрыканскай вайны будзе старацца Масква паказаць фальшывага Гітлера, які заключыць новы саюз із Сталінам і зьвернецца да нямецкага народу з «гарачым» прызывам змагацца супраць «плютакратыі Захаду».

### ГАДАВІНА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛАТВІІ

18 лістапада сёлета латыскі народ сьвяткаваў урачыста дзень трыццатай гадавіны абвешчаньня сваей гаспадарстваўскай незалежнасьці. 30 год таму 18 лістапада 1918 г. была абвешчаная незалежнасьць рэспублікі Латвіі, якая за 20 год свайго існаваньня дасягнула значных посьпехаў ўва ўсіх галінах нацыянальнага. культурнага й эканамічнага жыцьця. Ходам сусьветных падзеяў і Латвія была захопленая бальшавіцкім імпэрыялізмам, а яе лепшыя прадстаўнікі былі высланыя бальшавікамі на вынішчэньне або апынуліся на выгнаньні ды сяньня, вядучы змаганьне за сваё вызваленьне, святкуюць трыццатую гадавіну сваей незалежнасьці.

Беларусы сваім сябром па няшчасьці й суседзям жадаюць посьпеху ў змаганьні і разам з латышамі ўзносяць кліч:

**«Лай дзіво брыва «Латвія»**

### ВЫРАШАЛЬНЫЯ БАІ Ў КІТАІ

У правінцыі Сычоў, 300 клм. на поўнач ад Нанкіну, разгарэліся цяпер найвялікшыя ў гісторыі Кітая баі паміж камуністымі і нацыянальным Кітаем. Па абодвых бакох прыймаюць ўдзел у баёх больш, чымсьці па поўмільёна жаўнераў. Агульна лічацца з фактам, што вынік гэтых баёў пастановіць аб лёсе кітайскай сталіцы — Нанкіне. Урадавая армія атрымала значныя падмацаваньні з паўдня з мэтаю затрымаць атаку камуністых.

У сувязі з завастрэньнем палажэньня на фронце ўведзена ваеннае палажэньне на тэрыторыі паміж Нанкінам і Шанхаем.

### 17,5 МІЛЬЯРДАЎ КАШТАВАЎ ФРАНЦУСКІ ШТРАЙК

Штрайк вуглякопаў у Францыі зьбліжаецца ўжо да канца. Амэрыканскія спэцыялістыя аблічаюць, што дзякуючы штрайку Францыя страціла 9 мільёнаў тонаў вугля і прыблізна 17 з палавінаю мільярдаў франкаў. Гэтыя страты ня змогуць быць пакрытымі прадугледжаным да 30 ліпеня 1949 г. павялічэньнем даставаў паводля пляну Маршаля.

У некаторых мясцовасьцях, за выключэньнем Каен і Бордо, трываюць яшчэ штрайкі партовых работнікаў. Дзеля гэтага караблі разладоўвае войска.

### ШТРАЙК ПАРТОВЫХ РАБОТНІКАЎ У ЗША

У ўсходня-амэрыканскіх партох заштрайкавала 65.000 работнікаў, якія жадаюць павышэньня заработнай платы на 50 цэнтаў у гадзіну. Гэты штрайк заблякаваў усе тавары, што мелі адплысьці ў Эўропу паводля пляну Маршаля. Чыгуначныя прафэсыянальныя саюзы пастанавілі не перавозіць тых тавараў, якія прызначаныя на экспарт. Дзеля гэтага паўстаў праект высылаць тавары ў Эўропу цераз канадзкія парты.

Таксама і ў партох заходняга ўзьбярэжжа ЗША штрайкуюць партовыя работнікі.

### БАЛКАНСКАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ПАЛІТЫЧНАЙ КАМІСІІ ЗН

Палітычная камісія ЗН апошнім часам разглядала Балканскае пытаньне й прыняла ў гэтай справе чатыры рэзалюцыі. Першая рэзалюцыя, прынятая супраць галасоў славянскіх гаспадарстваў, дамагаецца далейшага існаваньня Балканскай камісіі ЗН, якая павінна імкнуцца шукаць магчымасьцяў дзеля ўрэгуляваньня грэцкага канфлікту. Яна дамагаецца ад Альбаніі, Баўгарыі й Югаславіі ня ўмешвацца ў нутраныя справы Грэцыі, але супрацоўнічаць з грэцкім урадам і Балканскай камісіяй. Другая рэзалюцыя між іншым дамагаецца ад трох славянскіх гаспадарстваў навязаць дыпляматычныя дачыненьні з Грэцыяй. Трэйцяя рэзалюцыя, якая была прынятая аднагалосна, прапануе безадкладнае скліканьне Балканскай канфэрэнцыі ў Парыжы. У чацьвертай аднагалосна пастанаўляецца, што грэцкія дзеці, якія з прычыны дамашняй вайны апынуліся заграніцай, павінны быць за пасярэдніцтвам Чырвонага Крыжа адасланыя назад у Грэцыю, калі зажадаюць гэтага іхныя сваякі.

### МАРШАЛЬ АСТАНЕЦЦА

Міністар замежных справаў Маршаль запярэчыў пашыраным чуткам, што быццам ён пастанавіў у будучым годзе пакінуць сваё становішча міністра замежных справаў.

# ХВАБРЫКА АТАМНАЕ ЭНЭРГІІ

## (ТАЙНІЦЫ ВЯЛІЗАРНАГА ІНДУСТРЫЯЛЬНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА НАШАЕ ЭПОХІ)

Сакрэт атамнае бомбы, асабліва ейнага выпрадукаваньня зьяўляецца сяньня пытаньнем, якое непакоіць і інтрыгуе ўвесь сьвет. Таксама многія ламаюць сабе галовы над тым, ці Саветы маюць ужо атамную бомбу, а калі не, то ці змогуць яе хутка мець. Каб хоць трохі кінуць сьвятла на гэтую тайніцу, падаём тут некаторыя дадзеныя аб хвабрыках атамнае энэргіі ў Задзіночаных Шаттах Амэрыкі, узятыя з аднаго аўтарытэтнага амэрыканскага часапісу. Аўтар падае толькі частку тых вестак, якія з гледзішча на вайсковую тайніцу можна выявіць. Але й гэтыя адкрываюць перад намі цэлае мноства нязнаных дагэтуль фактаў, якія сьветчаць, што выпрадукаваньне атамнае энэргіі настолькі скамплікаванае, прэцызыйнае й дарагое, што ў чытача паўстаюць зусім паважныя сумлівы, ці Саветы пры незавідным стане сваей індустрыі наагул маюць магчымасьць выпрадукаваць сваю атамную бомбу.

---

Кіньма позірк на Оўк-Рыдж — у вадну з хвабрык аграмаднага праекту выкарыстаньня атамнае сілы. Пройдзем разам цераз браму ў добра ахраняную хвабрыку, паложану глыбака ў горах Тэнсі. Панцыр, абсаджаны паліцыяй, трымае варту ў браме. Брама злучаная радыятэлефонам з галоўнай цэнтраляй хвабрыкі і з кажным цэнтрам ізалявяных ад сябе будынкаў. Сьпярша ўбачыце лябараторыю, частку цэнтральнага інстытуту досьледаў атамнага ядра. Яна складаецца із 150 вялізарных будынкаў. У вадным зь іх знаходзіцца атамная кіслата — цудоўнае вынаходніцтва, зь якім і пачалося атамнае стагодзьдзе. Уран, дабываны ў Амэрыцы, Бэльгійскім Конго і другіх мясьцінах, прыбывае сюды пасьля рафінэрыі ў выглядзе цяжкіх манэтаў у круглых, падобных да кішэннага гадзіньніка, кавалках. Гэты лом можна свабодна яшчэ трымаць у руках, бо ён слаба радыяактыўны. Кускі гэтага лому апрацоўваюць далей, кладуць у печы з графіту, якія розьняцца ад іншых печаў чорным колерам, паліроўкай і вытрымаласьцю. Паміж двух графітаў, якія ня маюць у сабе урану, кладзецца уран, трэцца і атрымоўваецца кіслата.

Яна служыць у Оўк-Рыдж для прадукцыі радыяактыўных субстанцыяў для досьледаў і практычнага выкарыстаньня ў індустрыі, мэдыцыне і другіх галінах веды. Яна мае больш патэнцыяльнай энэргіі, чымсьці ўсе паравозы сьвету, а разам і такую колькасьць праменьнятворчай сілы, як мільён фунтаў радыю.

Гатовыя прадукты з Оўк-Рыдж ідуць у хвабрыку прадукцыі плютону і ў другі завод вырабу атамных бомбаў. Абодвы гэтыя працэсы нязвычайна скамплікаваныя.

У Оўк-Рыдж атамная сыравіна дабываецца двума рознымі шляхамі. У перцым выпадку працуецца ў электрамагнэтычным заводзе, які ляжыць 10 клм. ад цэнтральнага інстытуту досьледаў. Каб усьцерагчыся выпадку ўзрыву, кажны будынак заводу аддзелены ланцугом гораў. Электрамагнэтычны завод У 12, які складаецца з 170 будынкаў, каштаваў болей, чымсьці пабудова Панамскага каналу. У часе будовы не хапала медзі. Дзеля гэтага ўзята зь дзяржаўнай хвабрыкі манэтаў серабра на поў-мільярда даляраў для електрычных правадоў. Яно ўсё ўзятае, як пазыка.

Устанаўленьне й пабудова гэтае дзіўнае хвабрыкі выклікала шмат дагэтуль няведамых тэхнічных праблемаў. Тут аддзяляліся атамы урану Ф 235 з Ф 238. Многія тысячы агрэгатаў-машынаў, устаноўленых у парадку электрычных батарэяў, трэба было зрабіць і ўставіць. Адначасна трэба іх умела абслугоўваць, каб тысячы работнікаў, якім зусім чужая й няведамая іхная праца, маглі зь імі абыходзіцца.

Для пакананьня ўсіх цяжкасьцяў пабудовы й устаноўкі гэтага гіганта было запрапанавана ўсім індустрыяльным канцэрнам узяць удзел пры гэтым. Прыкладам, трэба было пабудаваць помпу, якая мела-б у 30 мільёнаў разоў большую сілу ўсасываньня за другія помпы, ужываныя ў заводах із сярэдняй сілай. Прадуцэнты магнітаў атрымалі заданьне: «Зможаце зрабіць магніт у 100 разоў сільнейшы, як дагэтуль?». Прадуцэнты выканалі гэта. Магніты 70,5 мэтраў вялічыні былі выпрадукаваныя. Яны мелі такую сілу прыцягваньня, што з трудам трэба было каля іх праходзіць.

---

найлепш, наладзіць яе так, каб пры найменшай затраце энэргіі давала яна найлепшыя вынікі.

А таму перад намі, як паасобнымі грамадзкімі адзінкамі, так і перад цэлымі арганізацыямі няўхільна стаяць тры наступныя заданьні:

1. Арганізацыйна ахапіць як мага ўсіх беларусаў на эміграцыі з тым, каб уцягнуць іх у наш агульны працэс нацыянальнае працы паводля магчымасьцяў і здольнасьцяў кажнае паасобнае адзінкі.

2. Рацыянальна расставіць усе нашыя актыўныя сілы, як паасобных арганізацыяў, так і людзей у іх, і так разьмеркаваць іхную дзейнасьць, каб пазбавіцца ненармальнае аднастароннасьці й адпаведна ахапіць усе чыста галіны нашае палітычнае, грамадзкае, культурнае і ўсякае іншае нацыянальнае працы як на нутраным, так і на вонкавым фронце.

3. Усей нашай дзейнасьці надаць найбольш мэтазгодны кірунак, срога ўзалежніць яе ад найбольш пякучых, актуальных і важных патрэбаў нашага нацыянальнага жыцьця ды павязаць яе з агульнымі вымогамі сучаснасьці й бліжэйшай будучыні.

Гэта найбольш актуальныя практычныя заданьні на сяньня ўсяе нашае эміграцыі. Да ажыцьцяўленьня гэтых заданьняў мы павінны безадкладна й прыступіць.

# СПРАВЫ ДП

### ЧАРГОВАЯ ПРЭСАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ІРО

Ізноў зьехаліся ў Бад-Кісінген выдаўцы і супрацоўнікі розных ДП-газэт і журналаў, каб узяць удзел у чарговай прэсавай канфэрэнцыі ІРО дня 16.11.1948 г. Апрача іх у канферэнцыі ўдзельнічалі многія прадстаўнікі заакіянскіх дабрадзейных арганізацыяў, эміграцыйных місіяў Англіі і Аўстрыі, амэрыканскае арміі і іншыя.

Адчыняючы канфэрэнцыю сп. Фэдэр прадставіла сабраным новага шэфа аддзелу інфармацыі Г. Г. ІРО на амэр. зону сп. Ч. Рэйнэра, які й кіраваў далей канфэрэнцыяй. Перш за ўсё сп. Фок (Аддзел Рэпатрыяцыі й перасяленьня) даў адказы на пытаньні зьвязаныя зь яго бранжаю, якая не бяз прычыны ўважаецца за найважнейшую ў Г. Гасподзе. На пачатак сп. Фок пацьвердзіў і з радасьцю прывітаў ад імя ІРО пададзеную агенцтвам Дэна вестку аб тым, што савецкі ўрад вялікадушна задэкляраваў сваю гатовасьць прызнаць тым сем'ям ДП, якія захочуць вярнуцца на бацькаўшчыну, аднаразовую дапамогу ў 200 н. марак! Трэба спадзявацца, што нашыя ДП змогуць ужо належна ацаніць гэты гуманітарны шаг Саветаў... Далей было запэўнена, што ў канцы гэтага тыдня пачнецца інтэнзыўная праца ў рамах закону аб эміграцыі 205 тысяч ДП у ЗША. Прадстаўнікі ДП-Камісіі Вашынгтон, амэр. службы здароўя, амэр. канзулятаў і дабрадзейных арганізацыяў ужо знаходзяцца на мясцох. У ДП-Камісію Франкфурт (філія камісіі вашынгтонскай) да 6.11.48 уплыло 1555 гарантыяў на працу й памешканьне ў ЗША. Ёсьць надзея, што і далей будзе ўплываць тыднёва ня менш тысячы такіх гарантыяў. Тыя ДП, што пападуць у ЗША, будуць карыстацца там усімі правамі амэр. грамадзянаў — у прыватнасьці-ж правам уступленьня ў прафэсыйныя саюзы. Аказваецца, што ніводная з дзеючых у амэр. зоне ўрадавых місіяў на эміграцыі не выключае прыйма сем'яў. Толькі кожная зь іх ставіць свае ўласныя ўмовы, на якія ІРО ня мае ўплыву. Адносна эміграцыі старыкоў, непрацаздольных, людзей з «непрактычнымі» прафэсіямі і г. д. было адзначана, што пры Галоўным Камітэце ІРО ў Жэнэве створаны адмысловы аддзел, які й займаецца разьвязкай гэтае цяжкое справы. Кажная з зацікаўленых краін мае прыняць да сябе азначаны працэнт гэтае катэгорыі ДП. Наагул кажучы, ІРО намагаецца утрымаць сем'і ў цэласьці; на практыцы усё-ж трымаецца правіла індывідуальнага падыходу да кажнага ДП паасобку. Сіроты маюць наагул мала шансау на эміграцыю — пакуль-што згаджаюцца прымаць іх толькі Бэльгія й ЗША (толькі індывідуальна, г. зн. калі ёсьць іменная гарантыя). Пераселенымі за акіян ДП апякуюцца асобныя місіі ІРО, якія будуць працаваць да чэрвеня 1950 г., калі выгасае мандат ІРО. За час ад чэрвеня 1948 г. да чэрвеня 1949 г. маюць пакінуць Нямеччыну 150.000 ДП.

Ці йснуе пэўнасьць, што ў выпадку міжнароднага крызысу ўсе ДП і ўцекачы будуць сваечасова адтранспартаваны зь Нямеччыны« — У адказе на гэтае пытаньне было сьцьверджана, што ў такой сытуацыі адказнасьць за адтранспартаваньне ДП ня будзе нясьці ІРО, а амэр. армія.

**Гр.**

## ЦІ ЛЁГКА ВЫЕХАЦЬ У АМЭРЫКУ?

Новы амэрыканскі закон, паводля якога мае быць прынята на працягу двух год 205.000 ДП у ЗША, быў спатканы бальшынёю перамяшчэнцаў з пачуцьцём радасьці й надзеі. Не адзін у душы сказаў сабе: Напасьледак адкрылася магчымасьць пакінуць негасьцінную Нямеччыну й разам зь ей зьненавіджаныя лягеры ДП! І таму многія, што былі наважылі эміграваць у іншыя краіны. або ўжо навет і распачалі стараньні для гэтага, адкінулі ранейшы плян ў надзеі папасьці ў ЗША.

Аднак у запраўднасьці справа не выглядае так проста, як некаторым можа здавацца. Перадусім агульны кантынгент 205.000 зьменшыцца на 185.000, калі возьмем пад увагу, што ў гэты лік уваходзяць: 1. 2.000 чэхаў — новых палітычных эмігрантаў пасьля саветызацыі Чэхаславаччыны, 2. 3.000 сірот ніжэй 16 год і 3. 15.000 тых асобаў — якія прыбылі ўжо раней у Амэрыку на часовы побыт і хочуць там астацца на стала. Калі на гэтую лічбу 185.000 падзелім 800.000 ДП, што знаходзяцца ў Нямеччыне, Аўстрыі й Італіі, дык выйдзе, што навет менш чымсьці кажны чацьверты ДП зможа папасьці ў ЗША.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Вялізарнай перашкодай для выезду ў ЗША зьяўляюцца каркаломныя фармальнасьці, якія кажны мусіць перамагчы. Каб выехаць у ЗША, то спачатку трэба атрымаць ад сваякоў, знаёмых ці якой-небудзь дабрадзейнай арганізацыі натарыяльна пасьветчаную гарантыю, што там будзе для яго запэўненае памешканьне й праца і што з гэтага памешканьня ня будзе выкінуты, а з працы звольнены амэрыканскі грамадзянін. Як лёгка дастаць такую гарантыю, можа сьветчыць выпадак з палякамі. Як ведама, палякі ў Амэрыцы зьяўляюцца найбольшай колькасна й найлепш зарганізаванай нацыянальнасьцю спасярод усіх іншых нацыянальнасьцяў, што паходзяць з краінаў з-за зялезнай заслоны. Вось-жа амэрыканскія палякі спачатку прыабяцалі сваім суродзічам у Эўропе 70.000 такіх гарантыяў, цяпер зьнізілі гэтую колькасьць на 20.000, а дагэтуль паступіла такіх гарантыяў толькі 2.700.

Апрача гарантыяў, кандыдат на выезд у ЗША мусіць адказваць розным іншым вымогам, прадбачаным у законе, а галоўнае ён і ягоная сям'я павінны мець добрае здароўе.

Як ведама, закон прадбачыць перавезьці дапушчаны ў ЗША кантынгент ДП на працягу двух гадоў. Але ў практыцы няведама, ці будзе гэта выканана. Калі ўзяць пад увагу факт, што за папярэдні й бягучы месяц згодна закону мела выехаць 30.000, а ўзапраўднасьці выехала каля 800, дык мусяць паўстаць паважныя сумляваньні адносна датрыманьня прадугледжанага тэрміну.

З усяго сказанага вывад ясны: далёка ня ўсе тыя, што жадаюць, змогуць выехаць у Амэрыку, а спасярод тых шчасьлівых, якім усё-ж такі ўдасца пралезьці цераз ігольнае вушка, многія будуць змушаныя чакаць на гэтую радасную хвіліну два гады, а можа й болей. А доўгае прабываньне ў Нямеччыне не зьяўляецца выгадным як з гледзішча на міжнароднае палажэньне. так і на тое, што лягеры й апека ІРО ня будуць доўгатрывалымі.

Дзеля гэтага тыя зь беларусаў, якія ня маюць вялікай надзеі на выезд у ЗША, павінны паважна задумацца аб выездзе ў іншыя краіны, куды можна папасьці скарэй і лягчэй. Цяпер шмат краінаў шырака адкрывае свае дзьверы перад ДП і ніводная зь іх ня робіць ужо ніякіх агранічэньняў ані выключэньняў для беларусаў. Бяручы пад увагу нашыя нацыянальна-грамадзкія патрэбы й умовы жыцьця й працы, з заакіянскіх краінаў мы рэкамэндуем нашым суродзічам Аргентыну й Канаду, а з Эўрапэйскіх — Ангельшчыну й Францыю.

**А. М.**

### УЗМАЦНЕНЬНЕ ЭМІГРАЦЫЙНАЙ АКЦЫІ

Апошнім часам цэлы рад краінаў, што ўжо прынялі пэўную колькасьць ДП, аднавілі й пашырылі прыймо новых эмігрантаў, некаторыя-ж іншыя краіны ўпяршыню адкрылі свае дзьверы перад жыхарамі лягераў ДП.

І так эміграцыйныя органы ІРО абвесьцілі аб прыйме ДП наступнымі краінамі:

**1. Аўстралія** прыймае **беларусаў**, балтаў, палякаў, чэхаў, украінцаў, югаславаў і **жыдоў**, але гэтых апошніх толькі нежанатых.

**2. Бэльгія** прыймае ўсе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў.

**3. Бразылія** — усе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў.

**5. Чылі** — усе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў, мадзяраў, украінцаў, армянаў і сырыйцаў.

**6. Ангельшчына** — усе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў і расейцаў.

**7. Францыя** — усе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў.

**8. Вэнэцуэля** — усе нацыянальнасьці за выключэньнем жыдоў.

**Як ведама,** Аўстралія падчас апошняга набору ня прыймала беларусаў. Тады Беларускі Нацыянальны Камітэт зрабіў адпаведныя й абгрунтаваныя захады перад аўстралійскім урадам, у выніку якіх беларусы могуць цяпер свабодна ехаць і ў гэтую краіну. Такім чынам ніводная краіна, якая прыймае да сябе ДП, **ня робіць аніякіх агранічэньняў для беларусаў.** Таму трэба ўважаць за груба наіўныя й фальшывыя, а з гледзішча нацыянальнага й шкодныя меркаваньні некаторых беларусаў, якія запісваюцца палякамі ў надзеі, што дзякуючы гэтаму хутчэй выэмігруюць.

### СВЯТОЙ † ПАМЯЦІ

**Васіль Шэйчук, жыхар беларускага лягеру ў Остэргофэне, 15 лістапада 1948 г. у веку 57 год адыйшоў на вечны супакой, пакінуўшы жонку, двух малых сыноў і ўзрослую дачку, а 18 лістапада быў урачыста пахаваны з удзелам усяго лягернага насельніцтва на нямецкім магільніку ў Остэргофэне.**

Васіль Шэйчук — гэта ціхі й сумленны беларускі селянін з Косаўшчыны, злая доля якога, як і бальшыні беларускіх сялянаў, была заўсёднай спадарожніцай ягонага жыцьця. Будучы яшчэ ў роднай вёсцы, страціў трох сваіх сыноў і бліжэйшых сваякоў, якія былі замардаваныя камуністычнымі бандамі, а таксама й ён сам быў імі перасьледаваны. Потым той-жа злы лёс кінуў яго із сям'ёй на чужыну, дзе таксама змушаны быў зносіць голад, зьдзек і паняверку. Перад двума гадамі апынуўся ў беларускім лягеры ў Остэргофэне сярод сваіх суродзічаў. Але й тут апошнімі месяцамі не знайшоў зразуменьня й патрэбнага яму падтрыманьня ад тых, ад каго гэта выключна залежыла.

Няхай тады гэтая чужая, хоць ня родная зямля, будзе яму пухам!

# ХВЕДАР ІЛЬЯШЭВІЧ

У вапошнім нумары «Бацькаўшчыны» мы падалі вестку аб сьмерць беларускага паэты Хведара Ільяшэвіча, які трагічна загінуў 7 лістапада сёлета.

Ільяшэвіч быў ведамым беларускім паэтам, які перад вайною выдаў некалькі зборнікаў сваіх вершаў, што адзначаліся няштодзённым мастацкім узроўнем. Таксама пісаў ён апавяданьні й займаўся публіцыстычнай і пэдагагічнай працай. Апрача гэтага перад вайною й падчас вайны браў ён жывы ўдзел у беларускай грамадзкай працы. Асабліваі ягонай заслугай было ажыўленьне беларускага нацыянальнага руху ў Беласточчыне за часоў нямецкае акупацыі. Стоячы на чале Згуртаваньня Беларусаў Беласточчыны, як старшыня ягоны, і актыўна працуючы ў Беластоцкай беларускай газэце «Новая Дарога», Ільяшэвіч у вялікай меры прычыніўся да зактывізаваньня ўсяго беларускага сьведамага элемэнту на найбольш заходняй ўскраіне нашае Бацькаўшчыны й да абароны беларускага насельніцтва Беласточчыны перад палянізацыйнай акцыяй, моцна праводжанай у той час.

На працягу апошніх пару год Ільяшэвіч, нажаль, дзякуючы цяжкаму палажэньню, сямейнай трагэдыі й слабасьцям свайго характару, стаўся ахвярай варожых беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху дзейнікаў, якія бессаромліва выкарыстоўвалі ягоныя здольнасьці для сваіх антыбеларускіх мэтаў. Гэта быў нязвычайна трагічны пэрыяд у жыцьці Ільяшэвіча, ня менш трагічны, чымсьці й ягоныя сьмерць.

Таму на гэтым месцы ушаноўваем памяць Ільяшэвіча, як паэта й грамадзяніна ў мінуласьці, калі ён ахвярна й непахісна змагаўся за беларускія нацыянальныя ідэалы.

### НАСТУПНІК АНГЕЛЬСКАГА ТРОНУ

У ангельскай прынцэсы Альжбеты нарадзіўся ў нядзелю 14 лістапада сын. З гэтае нагоды ангельскі народ маніфэставаў у гэты дзень вялікую радасьць. Тытул дзіцяці будзе наступны: Яго Каралеўская Вялікасьць Князь Эдынбургу.

---

Людзі працавалі пры гэтых магнітах у гумовых ботах, а прылады трэба было рабіць з антымагнэтычных мэталяў — інакш вырывала іх з рук. Быў збудаваны электронны гадзіньнік — штопар, які лавіў рух часткі атаму ў мільярднай частцы сэкунды. Улепшаная была вага да тае ступені, што яна здольная была зважыць мільярдную частку міліграма (адзін міліграм раўняецца вазе прыблізна крыльля аднаго матылька).

Розныя фірмы далі 250.000 радыёвых лямпаў зусім новых тыпаў, якія ўпяршыню былі ўжытыя. Тут знаходзіцца найбольшая дагэтуль збудаваная паравая машына. Яе гэнэратары маюць большую сілу, чымсьці ўсіх на сьвеце разам.

За другім ланцугом гораў ляжыць К 25, апошняя з усіх хвабрыкаў. Тут у газавых камэрах адбываецца апошняя стадыя выпрацоўкі атамнае матэрыі. Сярод 70 будынкаў зьвяртае на сябе ўвагу галоўны будынак пад адным дахам у выглядзе падковы. Ён зьяўляецца чатырохпавярховым, 2,5 клм. даўжыні й 120 м. шырыні. Напасьледак бачым пабочны завод, у 4 разы меншы. Абодвы заводы поўныя машынаў такіх прэцызыйных, як мікраскоп. Яны служаць пры дабываньні большай колькасьці ізатопаў 235 із злучэньнем урану.

К 25 мае 100.000 кантрольных гадзіньнікаў і 12.000 клм. трубных правадоў. Уран сьпярша пераводзіцца ў газ, а пасьля ізноў у цьвёрдую матэрыю.

Запраўднае разьбіцьцё атамаў магчымае таму, што газ праходзіць праз пакрыву з тысячамі розных дзюраў. Кажная дзюра мае мільярды дзюрак, якія зьяўляюцца меньшымі за двух мільённую частку мілімэтра. Пакрыва гэтая можа пераносіць нязвычайны ціск. Кажная дзюра павінна мець сілу паравога молата й дакладнасьць мікраскопа. Такіх апаратаў дагэтуль немагчыма было нат сабе ўявіць. Акружаючыя трубныя правады не павінны мець ніякіх магчымасьцяў узрыву, хаця уран у газавым выглядзе ўзрываецца толькі пры высокай тэмпэратуры. Усю гэтую праблему разьвязала хімічная індустрыя. Таксама й нітаваньне мусіла базавацца на найнавейшых досьледах. Хвабрыкі параплаваў, хвабрыкі катлоў і прадуцэнты нержавеючай сталі выкарысталі свае найнавейшыя мэтады й разьвілі 14 новых працэсаў нітаваньня. Бяз гэтага падрыхтаваньня ня мог-бы паўстаць К 25.

Цэлы камплекс хвабрычных будынкаў павінен моцна ахоўвацца ў ваўсіх дачыненьнях. Хвабрыка ахоўваецца пры дапамозе скамплікаванай ахоўнай сыстэмы, падобнай да алярмовай сыстэмы вялікага гораду. Цэнтраля зараз-жа ведае, дзе адкрытыя дзьверы, дзе ўключаная або выключаная лямпа, дзе ўжываецца тэлефон, а навет дзе выбіта шыба.

У тых мясцох, дзе радыяактыўнасьць заграджае жыцьцю, уся праца кантралюецца аўтаматычна. Кантроля мусіць працаваць бесперапынна, нат калі заходзіць патрэба рамонту нейкае машыны. Замена прыладаў і частак машынаў праводзіцца пры дапамозе кранаў і іншых апаратаў, якія перарываюць або ўзноў устанаўляюць электрычныя кантакты, папраўляюць правады і пашкоджаныя часткі машынаў. Нядатныя ўжо да ўжытку машыны й прылады, што імі працавалі, закопваюцца ў зямлю. Аўтамашыны, служачыя да іхнага перавозу, таксама закопваюцца, каб пазбыцца дзеяньня на людзей радыяактыўных праменьняў.

Вялікая колькасьць сталі была па новаму паліраваная й шліфаваная. Тут на помач прыйшоў чалавек з малога гарадка штату Кэнтукы, які дапамог у гэтым, прымяняючы свой спосаб вырабу нагробных камянёў із мармару.

Другое прадпрыемства атрымала заказ: зрабіць помпу, якая ў працы будзе дзеіць хутчэй, чымсьці расходзіцца голас. Такога роду помпа была новасьцю. Ужыта 250.000 працоўных гадзінаў на досьледы й ейную прадукцыю. Ня гледзячы на вялізарныя навуковыя досьледы, тайніца ўдачаў у Оўк-Рыдж асноўваецца на досьледах тэхнікі й масавай прадукцыі. Такія дасягненьні прадстаўляюць сабой вяршыню нязвычайнай індустрыяльнай піраміды. З вольнага спаборніцтва й нафтавай індустрыі, электрычнай і хімічнай індустрыі, а таксама вырабу машынаў, гадзіньнікаў, радыя, тэлефону й тысячаў другіх галінаў прамысловасьці вырас плян працы да вышэйшае ступені разьвітае веды. Бяз вольнае канкурэнцыі й аўтавай ды маторнай прамысловасьці Оўк-Рыдж не ажыцьцявіў-бы свäей вялікай мэты.

Таму якраз Оўк-Рыдж дае магчымасьць кінуць позірк у будучыню. Аднаго дня можа зьмяніцца жыцьцё кажнага з нас, ня гледзячы на тое, дзе мы знаходзімся й што робім. Чалавецтва жыло дагэтуль дзякуючы сонечнай энэргіі. Нашае цела працуе дзякуючы тэй сіле, якую пасылае нам сонца. Таму нас можна назваць «сонечнымі машынамі». Гэтае самае адносіцца й да прамысловасьці, працуючай пры дапамозе сонечнай энэргіі, захованай у вуглі й нафце. Гэтая энэргія вызваляецца, калі адбіраем цяпло ад вугля й нафты, каб прымяніць яго, як сілу. 2 сьнежаня 1942 г. чалавек атрымаў новую сілу, у пяршыню незалежную ад сонца — атамную энэргію. Гэтая новая сіла ў нязьмеранай колькасьці захаваная ў элемэнтах урану й тору. Калісьці гэтыя элемэнты магчыма будуць выконваць нашую працу.

Цэлая армія тэхнікаў і вучоных занятая сяньня над пляінаваньнем новых хвабрыкаў атамнае сілы. Гэта цяжкае і нязвычайна дарагое заданьне, але над ягонай разьвязкай ідзе інтэнсыўная праца й магчыма раней будуць вынікі, чымсьці чакаецца. Кажны будучы атамны завод у ЗША, Канадзе ці Вялікабрытаніі будзе так пабудаваны, што дасьць энэргію для мірных мэтаў ці для атамных бомбаў. У будучыні заменяць яны электрастанцыі, што працуюць на дарагім вуглі, а атамнае паліва вагою адзін фунт лёгка давезьці да далёкіх хвабрыкаў. Бязумоўна ніхто ня будзе езьдзіць у атамнай аўтамашыне ці самалёце, бо стаіць на перашкодзе небясьпека ад радыяактыўных праменьняў. Атам, як самастойная сілавая крыніца, адкрывае ў будучыні вялікае развіцьцё індустрыі, мэдыцыны, сельскае гаспадаркі й інш.

Што датычыцца прадукцыі атамных бомбаў, дык ужо йдзе мова аб вырабе атамных супар-бомбаў. Спадзяюцца, што ўжо больш ня будзе прыменена атамная бомба, якая была скінутая на Японію, але новая бомба, выбух якой створыць цяплыню вышэйшую за цяплыню сонца. Гэтая цяплыня выкліча нязвычайную рэакцыю ў кіслародзе паветра. Сто, а магчыма і тысяча разоў будзе большы й сільнейшы ўзрыў ад такой бомбы, чымсьці ад тэй, што ўпала на японскі горад Гірошыма.

